Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 1—20
(Wilno, Ostrobramska 1—20)
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 3 (25) | Вільня, 5-га сакавіка 1938 г. | Год III.

## Разьвіцьцё беларускае незалежніцкае думкі.

*(Гістарычны нарыс).*

Дзевятнаццатае стагодзьдзе — гэта пара прабуджэньня беларускага народу да сьведамага нацыянальнага жыцьця. Наш народ прабуджаецца пад уплывам: заходняга рамантызму, які зварочваў увагу на народ і яго творчасьць; пад уплывам клічаў францускай рэвалюцыі аб вольнасьці, роўнасьці і братэрстве, а такжа пад уплывам усходняга рэвалюцыйнага народніцтва. Прыкладам для беларускага народу было адраджэньне польскага, чэскага, ўкраінскага, літоўскага, латышскага і іншых народаў. Ідучы за агульнымі імкненьнямі, а такжа баронячыся ад прагавітасьці некаторых суседзяў, якія хацелі-б выкарыстаць нацыянальную нясьведамасьць беларусаў дзеля пашырэньня сваіх этнаграфічных граніц, беларускі народ разам з іншымі народамі пайшоў да нацыянальнага ўсьведамленьня і адраджэньня сваей слаўнай мінуўшчыны

Кожны народ, прабудзіўшыся да жыцьця, так як і народжаны або прабуджаны чалавек, пачынае падаваць свой голас, які сьведчыць аб ягоным жыцьці. Сьведамы народ падае свой голас праз сваю прэсу або праз свае арганізацыі. Бяз прэсы і без арганізацыяў (зьездаў) народ ня мае магчымасьці падаць свайго голасу. Прэса і арганізацыі — гэта вусны кожнага народу.

Дасьледжваючы ў прабуджаным беларускім народзе разьвіцьцё ягонае незалежніцкае думкі, мы спасьцерагаем у гэтым разьвіцьці тры пэрыяды: 1) фэдэрацыйны, 2) конфэдэрацыйны і 3) незалежніцкі.

1) **Фэдэрацыйны** або *аўтанамічны* пэрыяд пачынаецца разам з паўстаньнем першай беларускай палітычнай арганізацыі „Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады", заснаванай у 1902 годзе. Гэта арганізацыя на зьезьдзе ў Менску ў 1903 г. падала *першы голас* з дамаганьнем „краёвай аўтаноміі з соймам у Вільні, як сталіцы краю" ў граніцах Расейскай імпэрыі. Чаму аўтаноміі, а ня поўнай незалежнасьці? Трэба ведаць, што тады ўсе былі пад уплывам велічы Расейскай дзяржавы, аддзяліцца ад якой ня было ніякай надзеі. Ня толькі беларускі народ, але нават і мацнейшыя з пункту нацыянальнай сьведамасьці народы, як польскі, літоўскі, ўкраінскі не дамагаліся афіцыяльна незалежнасьці, а толькі аўтаноміі. Думкі аб незалежнасьці пашыралі тады толькі адзінкі, якія бачылі ў ёй найвышэйшы ідэал свайго народу.

Гаворачы аб *першым* голасе, які падала „Бел. Рэвалюцыйная Грамада", мы не забываемся і аб голасе Кастуся Каліноўскага, які стаяў за аўтаномію Беларусі ў граніцах Польскае дзяржавы. Але ягоны голас быў голасам не арганізацыі, але адзінкі, хоць, праўду кажучы, гэтая адзінка ў сваім часе (1863-4 г.) была значнай і ўплывовай.

Варочаючыся да пазьнейшых часаў, да 1905-6 году, мы бачым, што першы бел. сялянскі зьезд (сакавік 1905 г.) жадае краёвай аўтаноміі з аддзельным соймам у Вільні. У студні 1906 г. на зьезьдзе „Бел. Сацыялістычнай Грамады" (якая паўстала з „Бел. Рэвалюцыйнай Грамады"), пастаноўлена змагацца за *Фэдэрацыйную* Дэмакратычную Рэспубліку, якая абнімала-б усе народы Расеі. У гэтай „фэдэрацыі" кожны край, ў тым ліку і Беларусь, павінен быў мець сваю аўтаномію і свой сойм.

Думка аб аўтаноміі выяўляецца і пазьней, аж да 1917 году, ў рэзалюцыях беларускіх зьездаў і ў бел. газэтах („Наша Доля", „Наша Ніва", „Biełarus", якія выходзілі ў Вільні, „Krynica", „Сьветач" і інш. — у Петраградзе), а такжа ў праграмах і рэзалюцыях галоўных тагачасных бел. партыяў: Бел. Сац. Грамады і Бел. Хр.-Дэм. Злучнасьці. Праграма „Злучнасьці" жадае аўтаноміі ня толькі для Беларусі, але і Літвы, Украіны, Латвіі...

Пасьля расейскай рэвалюцыі ў 1917 г. на 25-га сакавіка склікаецца першы агульна-беларускі міжпартыйны зьезд беларускіх дзеячоў, які аднагалосна выказваецца ў сваіх рэзалюцыях за „абвешчаньне Фэдэрацыйнай Дэмакр. Рэспублікі, ў якой Беларусь павінна мець аўтаномію".

У верасьні 1917 г. адбываецца ў Петраградзе вялікая Дэмакратычная нарада прадстаўнікоў ад усіх народаў Расеі. На гэтай нарадзе ад беларусаў было 6 чалавек, якія падалі дэклярацыю ня толькі аб патрэбе аўтаноміі і фэдэрацыі, але дамагаліся „прызнаньня за ўсімі народамі Расеі склікаць свае ўстаноўчыя соймы". У гэтай дэклярацыі, жадаючай для кожнага народу свайго *ўстаноўчага* сойму, ўжо бачыцца імкненьне да *конфэдэрацыі*, гэта значыць, да такога саюзу народаў, у каторым няма супольнага сойму, але кожны народ мае свой аддзельны сойм, а высылае сваіх прадстаўнікоў толькі да агульнага кіруючага органу.

2) **Конфэдэрацыйны** пэрыяд трывае далей праз 1917 г. аж да 25 сакавіка 1918 году. Усебеларускі Кангрэс фармальна бяручы стаў на фэдэрацыйнай плятформе, але *фактычна* імкнуўся да конфэдэрацыі. У рэзалюцыі, за якую бальшавікі разагналі Кангрэс, гаварылася, што Кангрэс 1) замацоўвае правы на поўнае самавызначэньне Беларусі, 2) прымае рэспубліканска-дэмакратычны строй, 3) стаіць на грунце агульна-расейскай фэдэрацыі, 4) выбірае спасярод сябе краёвую ўладу, 5) гэтая ўлада мае ўвайсьці ў дзелавыя зносіны з цэнтральнай уладай. Гэты апошні пункт, у якім гаворыцца аб *„дзелавых зносінах"*, сьведчыць, што Кангрэс стаў на грунце конфэдэрацыі, бо *дзелавыя* зносіны двух уладаў—гэта якраз прынцып конфэдэрацыі.

Усебеларускі Кангрэс ня мог абвесьціць незалежнасьці Беларусі, бо ідэя незалежнасьці яшчэ не насьпела ў большасьці дэлегатаў, з якіх некаторыя былі нават проціў аўтаноміі Беларусі (г. зв. „областнікі" і камуністы) і выступалі проціў беларускай краёвай улады. Як ведама, за рэзалюцыю аб утварэньні беларускай краёвай улады Кангрэс быў разагнаны камуністамі.

У лютым 1918 г. бальшавікі ўцякаюць з Менску пад напорам немцаў. Рада Кангрэсу 21. II. выдае „Першую Устаўную Грамату да народаў Беларусі", ў каторай гаворыцца аб скліканьні *свайго Устаноўчага Сойму* і вызначаецца першы беларускі ўрад з 15 народнымі сакратарамі (міністрамі). Аднак немцы не прызнаюць бел. ўраду дый няма магчымасьці скліваць свой Устаноўчы сойм (Канстытуанту). Тады Рада (9. III.) выдае „Другую Устаўную Грамату", ў каторай Беларусь абвяшчаецца *Народнай Рэспублікай*, але яшчэ нічога не гаворыцца аб яе незалежнасьці.

**Незалежніцкі** пэрыяд. Падзеі ў той час ідуць шыбка наперад. Ужо абвесьцілі сваю незалежнасьць Украіна і Літва. У Берасьці бальшавікі заключылі з немцамі мір ня толькі ад свайго імя, але і ад імя Беларусі, дзелячы яе яшчэ раз. Каб адабраць магчымасьць розным няпрошаным апякуном прамоўляць ад імя Беларусі і дзяліць яе, было пастаноўлена склікаць Раду на 24. III. на гадзіну 8-ю вечара і на парадку дня паставіць справу абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Дыскусія зацягнулася да раніцы 25. III. і ўрэшце большасьцю голасоў была прынята разалюцыя аб абвешчаньні незалежнасьці Беларусі і выдаецца „Трэцяя Устаўная Грамата", зьмест якой у агульных рысах такі:

Рада скідае з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Вольнай і Незалежнай Дзяржавай. На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць трактат у Берасьці такжа і за Беларусь... Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць Беларускаму народу зьдзейсьніць у поўнай меры яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

Гэтым актам распачаўся новы пэрыяд у жыцьці беларускага народу—пэрыяд незалежніцкі.

Дык ад жаданьня аўтаноміі (1903 г.) да абвешчаньня незалежнасьці (1918 г.) прайшло 15 гадоў, ад акту незалежнасьці па сяньняшні дзень—20 гадоў. Сёлета 25 сакавіка прыпадаюць 20-тыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

## Яшчэ аб кнізе Ад. Бохэнскага.

У мінулым годзе (№ 13 „Бел. Фр.") мы разглядалі кніжку Ад. Бохэнскага „Między Niemcami a Rosją", цяпер яшчэ раз, дзеля важнасьці і актуальнасьці тэмы, варочаемся да яе і дадзём сынтэтычныя ўвагі аб усходняй польскай палітыцы, парушанай Ад. Бохэнскім і разгледзім, як польская палітыка ў уяўцьці Бохэнскага маглаб быць рэалізавана практычна.

Польшч да 14-га стагодзьдзя імкнулася на захад, у землі заходніх славян: лужыцкіх сэрбаў, памаранаў і люцічаў. Аднак сустрэчны германскі націск ад часоў утварэньня Брандэнбурскай Мархіі (канец 12-га ст.) пачынае адсоўваць Польшч штораз болей на ўсход. Пад націскам германцаў, літоўскіх прусаў, а такжа гэтыхжа заходніх славян, з якімі польская тагачасная палітыка не магла знайсьці супольнага голасу, Польшч адварочваецца ад захаду, куды паказваў ёй дарогу Балеслаў Храбры і Балеслаў Крывавусны і зварочваецца на ўсход. Аканчальны-ж зварот спасьцерагаем за Казіміра Вялікага, які ў 1340 годзе займае Чэрвенскую Русь і ад гэтага часу польская палітыка шукае прастору для сваей нацыянальнай, культурнай і эканамічнай экспансіі на ўсходзе. Ад гэнага часу аж па сяньняшні дзень усходняя палітыка ў гэтакай форме стаецца якбы *кананам* польскай дзяржаўнай палітыкі. Заняўшы абаронныя пазыцыі на захадзе, Польшч вядзе наступаючую палітыку на ўсходзе. Крэўская ўнія з Вялікім Княствам Літоўскім, палітыка Ягайлавічаў, потым Люблінская ўнія, потым заваеваньні Сьцяпана Баторага даюць ў рукі Польшчы вялізарныя літоўска-бе-

ларуска-украінскія прасторы, дзе Польшч замацоўвае сваё становішча праз палітычную і рэлігійную унію. Але і тут, на ўсходзе, спатыкаецца яна з другім вялікім супраціўнікам, з Расеяй, якая імкнецца на захад. Паміж двама, ужо славянскімі супраціўнікамі пачынаецца сьмяротнае змаганьне за гэгэмонію над славянамі, якое трывае цэлыя стагодзьдзі і канчыцца паражэньнем і разам з гэтым падзелам Польшчы. Гэтакім парадкам палітычная экспансія Польшчы на беларускіх землях была заменена палітычнай экспансіяй другой дзяржавы — Расеі. Як адзін так і другі праціўнік карысталіся заўсёды ўплывамі сваей культуры, асабліваж рэлігіі, каб пашырыць і змацаваць свае палітычныя ўплывы.

Зрабілі мы гэты уступ дзеля таго, каб паказаць важнасьць тых падзей, якія адбываліся ў мінуўшчыне, адбываюцца цяпер, магчыма, будуць адбывацца ў будучыне.

Разам з ўскрашэньнем Польшчы да незалежнага жыцьця, ускрашаецца і яе ўсходняя палітыка. Марш.Пілсудскі ўкладае шмат энэргіі, каб зьдзесьніць свае «фэдэрацыйныя» пляны, паводле якіх тыя правінцыі, дзе была пашырана польска-каталіцкая культура, мелі быць далучаны да Польшчы, а далей на ўсход меліб паўстаць сфэдэраваныя з Польшчай Украіна і Беларусь. Спроба ўтварэньня сфэдэраванай з Польшчай Украіны амаль не прывялаПольшчы да катастрофы... Новым праціўнікам для Польшчы зьявіўся на месца расейскага манархізму расейскі камунізм, які ўзяў на сябе ролю злучыць пад сваей уладай ня толькі славянства, але і ўсё чалавецтва. У сваіх імкненьнях камунізм разьлічае на помач ня толькі сусьветнага пралетарыяту але і польскага... Затым ён удвае небясьпечны для Польшчы.

Зрабіўшы сынтэтычны агляд палітыкі польскай і расейскай, мы вернемся да кніжкі Ад. Бохэнскага. Трэба прызнаць, што гэта кніжка паставіла ўсходнюю палітыку Польшчы ізноў на парадку дня і то паставіла *ў новай форме* ды ў вельмі шырокім маштабе, шырэйшым, чым у мінулыя вякі. У мінулыя вякі Польшч змагалася з Расеяй за пяршынство паміж славянамі *адна*, а паводле праекту Бохэнскага мае змагацца *ў саюзе з Германіяй*. Гэта настолькі мяняе самую сутнасьць і форму ўсходняй палітыкі Польшчы, што над ёю трэба затрымацца шырэй, бо яна датычыць і беларускага народу.

Патрэбу актывізацыі польскай усходняй палітыкі у гэтакім шырокім маштабе Бохэнскі даказвае тым, што небясьпека для Польшчы з боку Расеі існуе асабліва цяпер; што трэба выкарыстаць сяньняшнюю нагоду дзеля абваленьня бальшавікоў і аслабленьня Расеі, што Польшч ляжыць не на старане, а якраз на царозе і паміж двама волатамі, дык нэўтральнасьці пры надыходзячай буры не захавае. Далучаючыся да Нямеччыны Польшч прыме ўдзел у падзеле Расеі (якую Бохэнскі называе «хворым чалавекам") на паасобныя дзяржавы і гэтым знэўтралізуе свайго ўсходняга ворага цалком. Апроч гэтага Бохэнскі паказвае і на другога „хворага чалавека" — на Чэхаславаччыну і згаджаецца на яе падзел. Аб Літве і Латвіі Бохэнскі ня кажа нічога.

Кніга Бохэнскага нарабіла ў Польшчы многа шуму і здабыла шмат прыхільнікаў. КалібПольшч пайшла па лініі Бохэнскага, трэба былоб лічыцца з вялікімі *магчымасьцямі*, з вялікімі падзеямі і зьменамі ў Усходняй Эўропе.

Разгледзім некаторыя магчымасьці.

*Першая магчымасьць*: Польшч ідзе на ўсход на паўночным, беларускім, адцінку і займае як найболей беларускай тэрыторыі, скажам, аж па Смаленск уключна (тады калі немцы займаюць усю Украіну і Каўказ). З усіх занятых абшараў на той бок рыскае мяжы Польшч творыць Беларусь пад сваім пратэктаратам. Беларускія землі на гэты бок рыскае мяжы паводле пляну Бохэнскага астаюцца ў граніцах Польшчы і рыская мяжа астаецца ненарушальнай.

*Другая магчымасьць*: Польшч займае прастор да Дняпра і Дзьвіны, украпляе гэту натуральную рачную лінію і займае тут абаронныя пазыцыі. Пры гэтай магчымасьці тварэньне нейкай незалежнай Беларусі, як гэта праектуе Бохэнскі, адпадае.

*Трэцяя магчымасьць*: Польшч агранічваецца лініяй Бярэзіны або гэтак званай лініяйДмоўскага. Пры гэтай канцэпцыі таксама адпадае праект стварэньня Беларусі, але Польшч дзеліцца з Расеяй беларускімі землямі папалам.

Якаяж з гэтых магчымасьцяў найболей праўдападобна? Восьжа аб гэтым Бохэнскі маўчыць і пакідае дагадкі заінтарасаваным людзям. Мы, крытыкуючы ў 13 н-ры «Б. Фр.» кніжку Бохэнскага, выразілі пагляд, што яна ня мае практычнага значэньня, бо не падае спосабаў, як рэалізаваць пляны аўтара ў практыцы. Нам здаецца, што найболей праўдападобнай, паводле плянаў Бохэнскага, першая магчымасьць, іменна, заціцьце ўсей беларускай этнаграфічнай тэрыторыі з заходняй Смаленшчынай уключна. Гэта далоб ў рукі Польшчы „смаленскія вароты" (паміж Дзьвіною і Дняпром), якія ў гістарычным змаганьніПольшчы з Расеяй адыгрывалі рашаючую ролю.Уладаньне гэтымі «варотамі" давалаб уласьніку іх ня толькі абаронныя магчымасьці, але і наступаючыя. Апроч гэтага заўладаньне Смаленскам давялоб да сапраўднага падзелу Расеі, чаго гэтак хоча Бохэнскі.

Якжа да гэтых магчымасьцяў маем аднесьціся мы беларусы?

Крытыкуючы кніжку Бохэнскага ў 13 н-ры „Б. Фр.", мы да яе аднесьліся *нэгатыўна* паміж іншым і з такіх прычын: вялікае зьнішчэньне краю ў будучай вайне, нясумернае з карысьцямі для беларускага народу; псыхічная непадгатаванасьць польскага грамадзянства да саюзу з беларусамі як роўныя з роўнымі; наезд польскіх абшарнікаў у занятыя правінцыі і змаганьне іх з бел. сялянствам за зямлю; недавер у беларускім грамадзянстве да польскай палітыкі, рэпрэзэнтаванай групай Бохэнскага і да магчымасьці ўтварэньня сапраўды незалежнай Беларусі; адносіны да беларусаў тут у Польшчы, як: асадніцтва, калянізацыя і розныя забароны, дык на наш пагляд, які мы ўжо выражалі, «з такім палітычным багажом праводзіць усходняе палітыкі ня можна». Бяручы ўсё гэта пад увагу, а такжа магчымае нездаваленьне бел. масаў з польскіх уладаў у занятых правінцыях, можна дапусьціць, што Беларусь будзе ар'ентавацца на Расею, так як гэта было на працягу гісторыі. А такое бесканечнае напружаньне паралізавалаб усякую пазытыўную працу і былоб прычынай бязупынных войнаў паміж Польшчай і Расеяй, што прывялоб край да поўнага вынішчэньня.

Бохэнскі прадбачвае ў будучыне магчымасьць коаліцыі Украіны, Расеі і Нямеччыны проціў Польшчы і дзеля гэтага іменна радзіць стварыць незалежную Беларусь. Разумаваньне яго даволі арыгінальнае, ён кажа: калі-б паўстала польска-беларуская фэдэрацыя або такі стан як цяпер, тады можна было-б дапусьціць магчымасьць расейска-ўкраінскай коаліцыі проціў Польшчы, бо была-б супольная граніца паміж Польшчай і Расеяй. Але калі-б паўстала разам з незалежнай Украінай і незалежная Беларусь, дык адсутнасьць супольнай граніцы выключала-б магчымасьць спору паміж Польшчай і Расеяй..,

Аднак гэтае разумаваньне Бохэнскага нам не трапляе да прakананьня і мы паставім яму пытаньне: ці дзеля тых або іншых прычын Расея не магла-б уцягнуць і Беларусь у праціўпольскую коаліцыю? Нам здаецца, што пры ўмелых дыпляматычных падыходах да беларусаў і абяцанках з боку Расеі і пры няўмелых адносінах Польшчы—далучэньне Беларусі да праціўпольскай коаліцыі зусім магчымае...

Гэтак загадкова прадстаўляецца нам будучыня польскай ўсходняй палітыкі ў уяўцы Бохэнскага. На наш пагляд, пры цяперашняй польскай палітыцы адносна беларусаў, паход Польшчы на ўсход гразіць вялікімі компліkацыямі як для народу польскага так і беларускага. Мы таксама стаім на грунце падзелу Расеі на паасобныя дзяржавы, *бо стаім за сапраўдную незалежнасьць усіх паняволеных Расеяй народаў*, але працэс гэтага падзелу мусіць дасьпець: калі беларускі народ, так як і іншыя народы, дасьпее да незалежнасьці, ён сабе гэту незалежнасьць сам возьме, карыстаючыся нутранымі а асабліва вонкавымі труднасьцямі Саветаў (магчымым паражэньнем у Японскай вайне). А ўсе іншыя „незалежнасьці" могуць выклікаць толькі дарэмнае праліцьцё крыві, зьніштажэньне краю і непрадбачаныя катастрофы.

*А. В.*

## *ЗАЦЕМКІ з ЖЫЦЬЦЯ.*

**Віленскія падзеі.** «Kurjer Wil.» (19. II. г. г.) пад загалоўкам «Білянс віленскіх выпадкаў» зьмясьціў паведамленьне ПАТ-а, якое падаём у дaслоўным перакладзе: «З прычыны выступленьня «Дзеньніка Віленскага» з артыкулам, у якім зьневажалася памяць Маршалка Язэпа Пілсудскага, судова-пракурорскія і адміністрацыйныя ўлады выдалі пачарзе такія распараджэньні: 1) апячатана было памяшчэньне «Дзен. Віл.». 2) Пракурор Акружн. Суду ў Вільні падаў акт абвінавачаньня з арт. 152 К.К. за зьневажэньне польскага народу праз зьнявагу чэсьці Маршалка Польшчы Язэпа Пілсудскага проціў аўтара артыкулу Ст. Цывінска-

# „Бунт Ройстау".

Пад гэтакім загалоўкам („Bunt Rojstów") нядаўна выйшла кніжка Язэпа Мацкевіча, супрацоўніка віл. „Słowa", брата рэдактара „Słowa" Станіслава Мацкевіча (Cat'a).Зьмест кніжкі — гэта рэпартажы (апісаньні) нашага краю, робленыя Язэпам Мацкевічам пры ягоных падарожах і друкаваныя на працягу некалькіх гадоў у «Słowie". Падчас сваіх падарожаў Я. М. прыгледзеўся да жыцьця і палажэньня нашага сялянства, да накіпелага ў ім ціхога «бунту» і мусіць дзеля гэтага назваў сваю кніжку „Бунт Ройстаў",

*Ройсты*, як паясьняецца ў прадмове да кніжкі, гэта балацістыя зарасьлі, трасіна, званая яшчэ імшарам або амшарынай, або і проста тапелішчам, праз якое вядзе грэбелька або кладка. (Ад сябе дадаём, што «ройсты» —гэта беларускае слова і азначае тут беларускі край, які чамусьці п. Мацкевіч не назваў на імені). У кніжцы знаходзім такія тэмы: апісаньне жыцьця і дзейнасьці сэктантаў (баптыстаў і пяцідзесятнікаў) з Вялейскага і Маладэчанскага паветаў, асабліва каля Радашкавіч; ёсьць рэпартаж і аб „цудоўных" абновах абразоў на Палесьсі, дзе за адну ноч нейкім таёмным спосабам абнаўляюцца абразы па закінутых цэркаўках, куды потым ідуць цэлыя грамады багамольцаў; ёсьць апісаньне бунту над Нарачам сялян, якія ў рашучым змаганьні дахадзілі сваіх адвечных правоў на лоўлю рыбы; ёсьць апісаньне Друі, якая мела стацца паўночнай беларускай Гдыняй, як выражаецца аўтар, а сталася худой і падупалай мясьцінай, у каторай з прычыны агранічэньняў, якія тасуюцца ў прыгранічнай паласе, жыцьцё зусім замёрла; далей ідзецъ апісаньне Палесься, дзе між балот істнуюць такія шчасьлівыя вёскі, аб каторых нават сэквэстратар ня ведае; ёсьць апісаньне «парадкаў» у Валожыне, дзе на «рэгуляцыю» ручайка выдалі аграмадную суму грашэй (40 тысяч зал.), а потым ідзе апісаньне Чорнага Бору пад Вільняй, дзе віленскія жыды ўстроілі для сябе летнішча, а ўканцы яшчэ пару апісаньняў нашага правінцыяльнага жыцьця — словам на 215 бачынах абмалёвана сумнае жыцьцё нашага краю. Варшаўскі «Czas» піша, што малюнкі жыцьця прадстаўлены «barwnie i lekko» і вызначаюцца добрай характэрыстыкай людзей і краю. Мы аднак вынесьлі іншае ўражаньне пасьля прачытаньня гэтай кніжкі: яна напісана лішне лёгка; ў ёй *няма глыбейшага ўняньня балячак нашага краю*, не паказаны *прычыны* «бунту ройстаў», не паданы *спосабы* ратаваньня іх, а толькі дадзены павярхоўны малюнак, агляд.

Вялікае, можа нават найбольшае ўражаньне з усяе кніжкі робіць вокладка, дзе прадстаўлены наш «тутэйшы» селянін, босы, з шапкаю ў руках, галава глыбока пахілена, воблік безнадзейна сумны, вочы ўбіўшы ў зямлю, ў зрэбнай падзёртай сьвітцы. Вокладку гэту праектаваў польскі мастак Юры Гоппэн. Трэба сказаць, што гэтая трагічна-сумная постаць беларуса на вокладцы болей адбівае ягонае жыцьцё, чым уся кніжка. Хацелі мы яе адбіць у нашай газэце, але настолькі яна жудасная, што пасьля некаторай раздумы, адказаліся. Рэдактар «Słowa» Cat-Мацкевіч, пішучы аб гэтай вокладцы, насьмехаецца з «дэмакратычнасьці» польскіх урадаўцаў на «крэсах» і кажа, што гэтак стаіць наш селянін перад дэмакратычным урадаўцам на ўсходніх землях («Słowo», 7. II. г. г.). „Урадавец гэты— піша далей Cat — перад каторым гэты селянін дзяржыць шапку ў жмені, пэўнеж ёсьць дэмакратам, а ягоная жонка належала да дэмакратычнага клюбу"... Аб гэтай «дэмакратычнасьці» ўрадаў сьведчыць яшчэ колькасьць бюраў дзеля пісаньня просьбаў — кажа Cat — і сьцьвярджае, што ідучы галоўнай вуліцай аднаго паветавага гораду, налічыў на аднэй гэнай вуліцы аж сем бюраў пісаньня просьбаў! Далей Cat кажа, што „Бунт Ройстаў" з палітычнага і юрыдычнага пункту гледжаньня ёсьць адным вялікім абвінавачаньнем, кінутым адміністрацыі ўсходніх земляў. Абвінавачаньне гэтае кідае Cat за стварэньне фікцыі г. зн. падаваньне за сапраўднасьць таго, што ня ёсьць сапраўднасьцяй і далей піша даслоўна так: „цэлая ваша работа, паны, гэта адна вялікая фікцыя, гэта той павярхоўны покаст з вапны, якім вы загадалі маляваць сьцены хатаў, зьверненыя да шляху або дарогі, кудою можа праехаць пан прэм'ер Складкоўскі. Фікцыя, адна вялікая фікцыя"!

Гэтак піша абшарніцкае «Słowo», якое, трэба прызнаць, лепш знае быт нашага селяніна за прыезных урадаўцаў,але з другога боку гэтае-ж «Słowo» адносіцца да селяніна папанску, кажучы, што „chłop jest *nasz*. Może to być katolik, albo prawosławny, mówiący lepiej lub gorzej po polsku, lub całkiem po białorusku, ale chłop jest *nasz*". Два разы „Słowo" называе беларускага селяніна „нашым" і два разы гэтыя словы падчырківае. Спытаемся ў „Słowa", што значыць гэтае слова „наш"? Ці і надалей беларускі селянін становіць нейкую ўласнасьць абшарнікаў"? Ці можа гэта толькі „прыяцельскае" пахлопываньне па плячы „свайго" мужычка? Ці ў гэтакіх адносінах да тутэйшага селяніна выяўляецца „большая" дэмакратычнасьць і „большая" прыхільнасьць да яго,

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

**Да большай актыўнасьці.**

На віл. беларускім грунце ў прыватных гутарках, а так-жа часткова і ў прэсе ўзьнялася справа большай актывізацыі беларускага руху. Думка зусім добрая, асабліва ў сяньняшні трывожны і разам дэцыдуючы час.

Беларуская прэса, прадстаўляючы бел. рух, дзяржалася таго правіла, каб прадставіць усе беларускія здабыткі ў аптымістычным, як найлепшым сьвятле, высьцерагаючыся паказваць пахібы, і калі пісала аб пахібах, дык звадзіла іх на асабісты грунт, уводзячы нездаровую лаянку і паклёпы. Тымчасам трэба сказаць праўду, што дагэтуль было вельмі мала, а часам і зусім ня было, *самакрытыкі*, якая у кожнай акцыі ёсьць неабходнай. Як ведама, усе чалавечыя творы ёсьць недасканальны, маюць свае пахібы і заганы; той чалавек, каторы дзеіць з пахібамі, часта сваіх пахібаў ня бачыць, трэба яму на іх паказаць. Але гэта паказваньне не заўсёды прыемнае таму, хто дапусьціўся пахібаў і трэба мець вялікую грамадзкую культуру, каб робленыя ўвагі прыняць і не загневацца. Людзі нявырабленыя ў грамадзкай працы часта ўважаюць нават рачовыя ўвагі за асабістыя прытычкі — і ў рэзультаце гневаюцца. Тымчасам крытыка і самакрытыка кожнаму чалавеку, кожнай арганізацыі і кожнай акцыі вельмі патрэбна. Крытыка або самакрытыка будзе тады добрай, калі прадстаўляюцца ня толькі благія бакі крытыкаванай рэчы, але і добрыя, ня толькі ад'ёмныя, але і дадатнія.

Дзеля гэтага ўважаем, што тыя бел. часапісы, якія ў дзейнасьці або ў здабытках беларускіх арганізацыяў, або нават у здабытках усяго беларускага народу бачаць адны толькі дасканальнасьці, моцна мыляюцца. Чытаючы гэтыя часапісы, можна часта вынесьці ўражаньне, што беларускі народ і на 100 працэнтаў сьведамы, і знае свае нацыянальныя мэты, і чытае сваю прэсу, і нават за яе плаціць — словам мае ўсе дасканальнасьці, толькі адна бяда, што нейкія вонкавыя сілы яму перашкаджаюць у ягоным разьвіцьці і здабываньні правоў. Гэтакі чалавек падобны да таго грэшніка, які за ўсе свае благія чыны ўзвальваў віну на чорта, кажучы, што каб ня ён, дык усё былоб добра! Нічога няма горшага, як такая пастаноўка справы у грамадзкім маштабе. Яна усыпляе народ, адыймае ад яго творчую энэргію і прывучае звальваць віну на каго іншага і вучыць чакаць нейкай перамены, у тым пракананьні, што прыйдзе перамена і ўсё як рукою адыме... Такія людзі забываюцца аб тым, што ніякая „перамена“ ня дасьць нічога, калі чалавек ня зможа выкарыстаць тэй перамены. Скажам праўду, што на перамену, і то на прыпадковую перамену, спадзяюцца толькі бяссільныя або лянівыя людзі. Жыцьцё і доля здабываюцца не пераменай, а працай. Толькі такая перамена мае сілу і трывалкасьць, якую чалавек сам зрабіў. Усякія іншыя перамены ня маюць большага значэньня.

Гэтымі ўвагамі мы хацеліб дапоўніць самакрытыку, якую мы пачалі ў папярэднім нумары нашага часапісу. Уважаем, што трэба пісаць праўду ня толькі аб чужых, але і аб сваіх справах. Гэта прабудзіць болей творчай энэргіі як пасярод бел. інтэлігенцыі, так і пасярод беларускіх мас і гэтым прычынімся да большай актывізацыі беларускага руху.

**Канфіската „Бел. Фронту“**

Папярэдні (другі) нумар „Б. Фр.“ сканфіскаваны адміністрацыйнымі ўладамі за артыкул: „Факты і выснавы з польскага палітычнага жыцьця“. Канфіската наступіла тады, калі ўжо газэта была здадзена на пошту.

**Кантроль бел. установаў.**

Даведваемся што ўрадоўцы віл. Гарадзкога Старасты трэйчы ўапошнім часе праводзілі кантроль рахунковасьці і інвэнтара Бел. Навуковага Т-ва, да каторага, як ведама, належыць бел. музэй, гэтая скарбніца беларускай мінуўшчыны.

Забраны такжа на перагляд у старастве кнігі рахунковыя і пратаколаў Бел. Гаспадарскага Зьвязу.

**Справа памятніка па Цётцы.**

У мінулым годзе на магіле Цёткі (Алёйзы Пашкевічанкі), ведамай бел. пісьменьніцы, памёршай у 1916 годзе, быў пастаўлены ў Ст. Двары, Шчучынскага павету, дзе нябожчыца пахавана, памятнік з беларускім напісам. Цяпер прыйшла ў Вільню весьць, што кансэрваторскі ўрад дамагаецца, каб памятнік гэты быў зьнесены... Проста ня хочацца верыць!

**Бел. Асьветнае Т-ва ў Варшаве.**

Надыйшлі весткі, што пад гэтакім назовам зарэестрована ў Варшаве Т-ва, якое мае на мэце пашырэньне культуры і асьветы пасярод беларусаў. Т-ва ўжо прыступіла да працы і рыхтуе беларускае прадстаўленьне і мае наладзіць канцэрт бел. песьні.

---

га і выдаўца «Дз. Віл.» Ал. Зьвержынскага. 3) Сьледчы судзьдзя да абодвых абвінавачанах застасаваў папераджаючы, тымчасовы арышт. 4) На прапазыцыю адм. уладаў і пракурора Акружн. Суду ў Вільні спыніў «Дз. Віл.» да часу прысуду ў справе абвінавачаных. 5) Дня 18. II. г. г. былі скіраваны ў лагер у Бярозе Пётр Ковнацкі, В. Сьвежэўскі і С. Лохтін — сябры «Народовага Строніцтва» ў Вільні за падбурваньне моладзі і арганізаваньне дэманстрацыяў. 6) Віленскі ваявода ў гэты-ж дзень спыніў дзейнасьць «Стр. Народовага» ў Вільні і на абшары віленскага ваяв. аж да адкліка588ньня. 7) Рэктар Унівэрсытэту С. Баторага спыніў д-ра Ст. Цывінскага ў абавязках доцэнта, а акадэміцкі сэнат пастанавіў аддаць яго справу дысцыплінарнаму пастунаньню. У Вільню скіравана рота кандыдатаў Дзярж. Паліцыі дзеля ўтрыманьня супакою і бясьпечнасьці“.

У наступным нумары «Kurjera Wil.» была вестка, што ў будынку ўнівэрсытэту адбылася канфэрэнцыя паміж моладзяй, рэктарам і прадстаўнікамі войска, якія выказалі свой пункт гледжаньня і заклікалі моладзь да непадрываньня аўторытэту арміі.

Пасьля выданьня адм. уладамі адозвы, прыпамінаючай вялікія кары за нелегальныя сабраньні, вечы і паходы, ў Вільні наступіла ўспакаеньне. На выхад новай эндэцкай газэты ўлады не далі дазволу.

**Напасьць на мітр. Шэптыцкага.** Пасол Вайцехоўскі, які належыць да ОЗН-у, сказаў на паседжаньні буджэтнай камісіі ў Сойме 3. II. вельмі вострую прамову проціў мітрапаліта Шэптыцкага, ведамага рэлігійнага і духовага павадыра ўкраінскага народу ў Польшчы. Пасол В. закінуў Мітрапаліту, што забараніў польскаму войску прымаць удзел у Вадохрышчы (Ярдані), што гэтым выступіў проціў Польшчы і што зламаў прысягу, дадзеную на вернасьць Польскай Дзяржаве.

Украінскі пасол Цэлевіч на тымжа паседжаньні буджэтнай камісіі ўнёс ад імя Укр. Парляментарнай Рэпрэзэнтацыі пратэст проціў такога выступленьня пасла В і проціў абразы, кіненай ня толькі на Найвышэйшага Дастойніка Гр. Кат. Царквы, але і найвышэйшага аўторытэту ўсяго ўкраінскага народу бяз рожніцы веравызнаньня. У пратэсьце пасол Ц. сьцьвердзіў, што форма прамовы посла В., а ў асобнасьці абраза, якая б'е па рэлігійных пачуцьцях верных, прычыніліся як найгорш да нармалізацыі польска-ўкраінскіх адносін. Мітрапаліт Шэптыцкі, не згаджаючыся на ўдзел войска ў Ярдане, хацеў усьцерагчыся палітычных дэманстрацыяў, якія маглі-б пры гэтым паўстаць і ня меў ніякіх варожых намераў. У абароне Мітрапаліта выступілі апроч гэтага ўсе ўкр. арганізацыі і народныя масы, каталікі і праваслаўныя.

## З Савецкай Беларусі.

З таго боку мяжы прыходзяць адны і тыя самыя весткі: чыстка. Беларусаў ужо „вычысьцілі“, дык цяпер чысьцяць каго папала. І так — адсунулі ад улады Белова, начальніка Бел. Ваеннага Вокругу, які заняў гэтае становішча пасьля растраляньня Убарэвіча; Мэзіса, сябру Рады таго-ж Вокругу і іншых. Хто такі Белов, хто такі Мэзіс, расейцы, жыды, латышы—мы ня ведаем, прозьвішчы іх нам нічога не гавораць. Беларусаў з нацыянальным пачуцьцём на абшары Сав. Беларусі не асталося зусім. Аб беларускіх нац. справах у савецкай прэсе пісаць ня можна. Нават у літаратурных журналах на беларускія тэмы пісаць забаронена. Напрыклад, у апошнім нумары «Полымя» ёсьць аб грузінскай літаратуры, аб расейскай, аб жыдоўскай, але аб беларускай нічога. Наагул, цяперашняя савецкая палітыка ідзе да таго, каб у нацыянальныя рэспублікі нацыянальнай літаратуры не даваць. З Масквы, напрыклад, прыйшлі весткі, што там было выпушчана юбілейнае выданьне твораў Т. Шэўчэнка; выданьне нават добрае, але што з таго, калі на Украіну прызначылі толькі *сто* экзэмпляраў, а рэшту разаслалі па іншых рэспубліках! Падобная палітыка тасуецца і ў Сав. Беларусі.

---

чым у ўрадаўца? А цяпер пытаньне: а як селянін стаіць перад нэдэмакратычным абшарнікам? Ці ня так, як і перад дэмакратычным урадаўцам? Добра былоб, каб ня гэтыя пытаньні „Słowo“ дало адказ.

* * *

Карыстаючыся з тэмаў, якія парушаны ў „Бунце Ройстаў“, мы хочам прадставіць у будучыне жыцьцё нашага селяніна болей усебакова, паказваючы на балячкі, на якія п. Мацкевіч не хацеў зьвярнуць увагі, бо на наш пагляд, справа стаяньня бел. селяніна перад ўрадаўцам у шапцы ці бяз шапкі яшчэ ня вычэрпывае прычын „бунту ройстаў“. *Прычыны ляжаць глыбей, іменна, у матар'яльнай і маральнай галіце сялянства.* Але аб гэтым другім разам.

* * *

Да кніжкі напісаны дзьве прадмовы: адна ведамага польскага падарожніка - дасьледчыка Оссэндоўскага, а другая — Людвіка Хамінскага з Альшэва (каля Сьвіра). Оссэндоўскі ў сваей прадмове (часткова сканфіскаванай) піша, што „Бунт Ройстаў“ ёсьць бунтарскай кнігай, бо з кожнай яе бачыны б'е сардэчнай крывёй, б'е аж пад шэрае, хмурнае неба гэтай пяскавой і балацістай зямлі прагавіты кліч, што „*толькі тая дзяржава варта мець свае ўласныя правы, ў якой кожны грамадзянін бароніць свайго права*“. Далей гаворыцца аб „зводных агоньчыках“, якія блукаюцца па нашым краі ў форме сэктанцтва і ў іншых формах; гэтыя агоньчыкі мігцяць перад вачамі штораз выразьней, штораз болей алярмуюча, мігцяць паміж шэрымі і часта незаўважанымі грамадзянамі гэтага краю, якія плацяць падаткі, не падымаюць, акрамя Нарача, бунтаў, пераважна маўчаць, ад векаў цярплівыя і невымагаючыя...

Л. Хамінскі зварочвае ўвагу на галоўныя прыметы сыноў гэтай зямлі: *любоў да свайго і сілу трываньня.* „Трываць і вытрываць — кажа Л. Хамінскі — гэта сымбаль, гэта галоўнае жыцьцёвае правіла, гэта адзіная абарона першабытнага чалавека, які шукае ўказак духа ў аб'яве свайго Бога ў акружаючай прыродзе.

„Ах, як сільная гэтая моц трываньня, як моцная цярплівасьць! Ня толькі тады, калі грэе сонца і сьпеў птушак вясьціць цуд веснавога ўскрашэньня—тады трываць лёгка. Але калі вее віхор і гудзе бура—трываць трэба. Дзьме сьнегавея, завявае сьляды, ваўкі выюць у доўгую ноч—трываць тады ёсьць адзіным загадам, заслугай і канечнасьцяй.

«Трываць, каб перажыць; жыць, каб перам трываць!

«Ціхі і цярплівы ёсьць чалавек гэтых земляў і хоць высока ня ўзносіцца, не даецца ўтаптаць у зямлю. Так ціхія і цярплівыя ёсьць гэтыя ройсты, па каторых ступае ягоны крок, заліваючы зараз-жа сьлед людзкой нагі, выпрастоўваючы мох, уцішаючы зачэпленую галінку—так што не пазнаеш, што прад хвілінай чалавек, чужы ў гэтым заклятым сьвеце, прайшоў сюдою... Толькі чалавек абуты, падкаваны і закаваны, чалавек цяжка ўваружаны ў прылады цывілізацыі, згубіць тут прывычную для сябе пэўнасьць кроку, пазнае пекла ціхага і няпэўнага тапелішча, прыкрытага мохам павабнай зелені, будучай аднак канцом для сьмельчака, які адважыўся ў сваей гордасьці адвярнуць векавечны парадак. Проціў такіх бунтуюцца ройсты“.

Гэтак гаворыцца ў прадмовах да «Бунту Ройстаў».

* * *

Прыгледаючыся да жыцьця нашай вёскі, трэба ў ёй зразумець той адвечны стан, які фармаваўся на працягу вякоў і які зьмяніць ня так лёгка. Гэты стан трэба адрожніць ад хваль, гнаных вятрамі то з усходу, то з захаду. Беларускі народ, палажаны паміж усходам і захадам, ня маючы натуральных перашкодаў, быў падлеглы гэтым вятром ужо сілай свайго палажэньня і абставін, у якіх ён апынуўся. Быў падлеглы на працягу усей сваей гісторыі. У апошніх часох гэтыя вятры пачалі дуць з яшчэ большай сілай, даходзячы часам да фармальнай буры і віхру. Гледзячы з боку, здаецца, што усё спакойна. Наш народ на выгляд астаецца спакойным, паслушным, спаўняе ўсе вымаганьні закону і вымаганьні асобаў, якія выконываюць закон, стаіць перад імі з шапкаю ў руках, так як тая постаць на вокладцы. Хто ня ўмее глядзець у нутро нашага народу, той скажа: „усё спакойна“ — і пойдзе да сваей працы або гульбы. Тымчасам у нутры гэтага народу накіпела многа нядобрага. Калі мы глянем на селяніна, прадстаўленага на вокладцы „Бунту Ройстаў“, мы мімаволі пытаемся: што гэты пануры селянін думае і што адчувае? Бо ён-жа таксама чалавек і мае добрыя і ліхія думкі! На гэтае пытаньне можна даць адзін адказ: у такім палажэньні і ў такой постаці ён можа быць або прыраджоным рабом, або прыраджоным бальшавіком. Чым іншым, асабліваж вольным і поўнаправым *грамадзянінам* у такой постаці ён быць ня можа. Ці п. Гоппэн, праектуючы гэту вокладку, здаваў сабе справу, каго рысуе?

Да парушаных у „Бунце Ройстаў“ тэмаў мы яшчэ вернемся.

*Р. С.*

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц люты).*

### Агульны агляд.

У лютым адбыліся па некаторых дзяржавах падзеі, на якія трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Да падзеяў належаць: нутраны пераварот у Нямеччыне, які аддаў Гітлеру фактычнае і юрыдычнае павадырства над усімі нямецкімі вайсковымі сіламі на сушы, моры і ў паветры; крок зроблены Гітлерам у кірунку далучэньня (аншлюсу) Аўстрыі да Нямеччыны; пераварот у Румыніі; дымісыя англійскага мін. Ідэна і спробы збліжэньня паміж Англіяй і Італіяй.

### Нямеччына.

Уначы з 4 на 5 лютага вышаў дэкрэт Гітлера, звальняючы марш. Блёмбэрга з становішча міністра вайсковых спраў і мін. Нойрата — з становішча міністра загр. спраў, прыгэтым Гітлер узяў павадырства арміі на сябе; міністрам вайсковых спраў назначаны ген. Кайтэль, а загр. спраў — Рыбэнтроп, тварэц антыкамуністычнага пакту; утворана пры Гітлеры Тайная Рада, у якую ўвайшлі: Нойрат, як старшыня, Рыбэнтроп, марш. Герынг, Гебэльс, ген. Брахвіч, ген. Кайтэль і адмірал Рэдэр —як сябры. Рада мае дэцыдаваць у важнейшых дзяржаўных справах.

Што азначае гэты пераварот і якія прычыны яго выклікалі?

Трэба ведаць, што пасьля прыходу да ўлады Гітлера (30.I.1933 г.) нямецкая нац-сацыялістычная партыя не адразу апанавала ўсё жыцьцё дзяржавы. Найдаўжэй дзяржаліся дзьве дзялянкі жыцьця: армія (райсхвэра) і цяжкі промысел. Цяжкі промысел Гітлер апанаваў пару месяцаў таму, калі падаўся ў дымісію дыктатар гэтага промыслу Шахт, але з арміяй Гітлер меў болей клопату: яна хацела быць „неўтральнай“ г. зн. незалежнай ад гітлероўскай партыі і яе палітыкі. У арміі панавалі яшчэ даўнейшыя вільгельмаўскія традыцыі і старая пруская палітыка, якая шукала кантакту і саюзу з Расеяй і хацела стаяць так як і даўней на грунце Лёкарно г. зн. паразумленьня з Саветамі. (Як ведама, на грунце паразумленьня з Нямеччынай стаяў у Саветах марш. Тухачэўскі і за гэта палажыў сваю галаву, а цяпер за гэта самае адсунуты ад улады марш. Егораў). Апроч гэтага райсхвэра выступала процiў помачы гішпанскім паўстанцам. Гітлер, выступаючы гэтак рашуча проціў Расеі і камунізму, ня мог зьнесьці савэтафільскай палітыкі некаторых генэралаў райсхвэры і за адну ноч даў дымісію 12 генэралам і вялікай колькасьці вышэйшых афіцэраў. Пасярод афіцэраў пачалася паніка і некаторыя ўцяклі за граніцу. Былі весткі і аб арыштах. Выехаў заграніцу і кронпрынц (старшы сын Вільгельма), які быццам праектаваў монархістычны пераварот у Нямеччыне на чале рэйсхвэры, прыгэтым выехаў так скора, што аж „забыўся“ пашпарту. Афіцыяльна было паведамлена, што ён паехаў „на нарты“.

Пасьля усяго гэтага 20.II. Гітлер у райхстагу сказаў вялікую, трохгадзінную, прамову, у якой выказваў здабыткі Нямеччыны на полі гаспадарчым і палітычным; нэгатыўныя адносіны да Лігі Народаў, у якую ужо Ням. ня ўвойдзе; варожыя адносіны да камунізму; прызнаньне Манджурыі і значэньне саюзу з Японіяй і Італіяй. Пра адносіны з Польшчай Гітлер сказаў так: да 1934 год у спор з Польшчай быў найболей вострай справай у Эўропе, ад гэнага часу дзякучы палітыцы марш. Пілсудскага адносіны паправіліся і цяпер паміж абедзьвама дзяржавамі існуюць прыязныя адносіны. Наладзіліся адносіны паміж Польшчай і Гданскам і шануюцца правы польскай меншасьці у Нямеччыне, а нямецкай ў Польшчы.

У лютым прыежджаў на паляваньне ў Белавежу марш. Герынг. Хоць прыезд Герынга не насіў афіцыяльнага характару, то ў паліт. кругох прыпісваюць гэтаму прыезду вялікае значэньне.

У пачатку гэтага сакавіка мін. Бэк едзе ў Рым на запросіны Мусоліняга. Газэты пішуць, што у Рыме будуць абгавораны ўсе справы, якія датычаць сяньняшняга міжнароднага палажэньня...

### Пачатак аншлюсу Аўстрыі.

Аўстрыя да апошніх часоў апіралася ў сваей палітыцы на Англіі, Францыі і Італіі, якія баранілі яе незалежнасьці і не хацелі яе далучэньня да Нямеччыны. Аднак у апошнім часе зрабіўся вылам у гэтых апякуноў: Італія заключыла саюз з Нямеччынай і, відаць, згадзілася на аншлюс. Зрабіла яна гэта мусіць з болем сэрца, бо для Італіі аншлюс не карысны — ён замнога прыбліжае Нямеччыну да заселенага немцамі Тыролю, які пасьля Вялікай вайны апынуўся ў граніцах італіі і які мае важнае стратэгічнае значэньне. Але робячы саюз, трэба, як той казаў, паступіцца, дык „паступілася“ і Італія, зжаджаючыся на частковы аншлюс Аўстрыі. Кажуць, што гэты аншлюс мае адбыцца „на раты“, паступова.

12.II. Гітлер заклікаў да сваей рэзыдэнцыі у Бэрхтэсгадэн канцлера Аўстрыі Шушнінга і паставіў яму такія варункі: залегалізаваць у Аўстрыі партыю нац-сацыялістаў, даць амнэстыю ўсім арыштаваным і прыняць у ўрад пару нац - сацыялістычных міністраў, прыгэтым Гітлер загразіў уваходам у Аўстрыю нямецкай арміі. Кажуць, што пры гэтай драматычнай гутарцы былі прысутны начальнікі трох ням. карпусоў, якія стаяць на аўстрыйскай граніцы... Шушнінг, прыехаўшы ў Вену, разаслаў тэлеграмы у Лёндын, Парыж і Рым, просячы помачы. З Лёндыну і Парыжу прыйшлі безнадзейныя адказы, а з Рыму парадзілі, каб Шушнінг споўніў варункі Гітлера... Шушнінг 16.II споўніў — і нованазначаны нац-сацыялістычны міністар унутраных спраў Зайс-Інкварт паехаў у Бэрлін, каб абгаварыць палажэньне...

Пасьля гэтага газэты пытаюць, на каго цяпер чарга, каб ехаць у Бэрхтэсгадэн? Найболей паказваюць на Чэхаславаччыну, якая цяпер знайшлася у вельмі трудным палажэньні, акружаная саюзнымі з Нямеччынай дзяржавамі. Паводле апошніх вестак прэзыдэнт Чэхаславаччыны Бэнэш пачаў гутаркі з павадыром нямецкага нац-сацыялістычнага руху у Чэхаславаччыне—Гінэляйнам.

### Зьбліжэньне Англіі да Італіі.

Нямецка-італьянскі саюз, падмацаваны яшчэ саюзам з Японіяй, ёсьць для Англіі вельмі грозны. Ен спараліжаваў яе рухі як у Эўропе так і Азіі, гразіць яе калёніям, гандлёвым дарогам і мае на мэце зьнішчыць Англію, як вялікую каляніяльную імпэрыю. Дык Англія пастанавіла гэты саюз разьбіць. Але ад каго пачаць? Вочы Англіі скіраваліся на Італію.

Італія перажывае цяпер трудныя часіны. Яе эканамічнае і фінансавае палажэньне замест таго каб папраўляцца, горшае з кожным годам. Вялізарныя ўваружэньні, абісынская вайна, а цяпер гішпанская, каштавалі і каштуюць не адзін мільярд ліраў; у Абісыніі трэба дзяржаць вялікую армію, бо выступленьні партызанаў там на парадку дня (як у Палестыне — толькі палестынскім партызанам памагае Італія, а абісынскім — Англія!), апроч гэтага ў Абісыніі трэба праводзіць дарогі, будаваць чыгункі, эксплёатаваць ея прыродныя багацьці, а на гэта патрэбен капітал. А дзе можна капіталу дастаць, як не ў Англіі? Усё гэта спрыяе навязаньню англійска-італьянскіх гутарак. Дык гутаркі пачаліся.

Але перад гэтым адбыўся крызыс у нутры англійскага ўраду. Справа ў тым, што мін. Ідэн не хацеў навязваць перагавораў з Італіяй, ня бачучы ў іх ніякай карысьці для Англіі. А прэм'ер Чэмбэрлен, наадварот, стаяў за тое, каб гэтыя гутаркі пачаць —і мін. Ідэн, які адносіўся вельмі крытычна да сябраў антыкамуністычнага саюзу, мусіў уступіць. На яго месца назначаны лёрд Галіфакс, прыхільнік Нямеччыны і Італіі. Дзеля гэтага некаторыя дагадваюцца, што гутаркі будуць адбывацца ня толькі з Італіяй, але і Нямеччынай, каб адцягнуць іх ад Японіі. Бо паводле Чэмбэрлена ня можна весьці варожай палітыкі адначасна проціў 3 дзяржаў, дык трэба пагадзіцца з Італіяй і Нямеччынай, каб адасобніць Японію. Пагадзіўшыся з Ням. і Італіяй, Англія маглаб выслаць сваю флёту на Далёкі Усход, дзе Японія загразіла яе інтарэсам. Аднак ня ўсе згаджаюцца з такой палітыкай Чэмбэрлена і проціў яго пачаліся дэманстрацыі як у англ. парляманце, так ва ўсіх антыфашыстоўскіх кругох Англіі.

### Падзеі ў Румыніі.

Румынія сваімі палітычнымі «скокамі» задзівіла ўвесь сьвет. Урад Гогі, які так рашуча ўзяўся за праводжаньне „румынізму“ і проціўжыдоўскай палітыкі, ўступіў. Радасьць пасярод жыдоў з гэтага факту была такая, што па ўсім сьвеце ў бажніцах былі адпраўлены падзячныя набажэнствы, а на вуліцах румынскіх гарадоў жыды з радасьці абымаліся і цалаваліся.

Якія прычыны маглі выклікаць такі „скок“ у румынскай палітыцы?—Прычын было многа, вылічым найважнейшыя. Першай прычынай быў эканамічны байкот Румыніі сусьветным капіталам, які, як ведама, знаходзіцца ў руках жыдоў. Дзеля гэтага байкоту эканамічнае жыцьцё Румыніі замёрла, валюта паляцела ўніз, фінансавае палажэньне краю апынулася перад крахам. Другой прычынай была інтэрвэнцыя Англіі і Францыі. Гэтыя дзяржавы разам з Чэхаславаччынай спынілі ваенныя дастывы ў Румынію, парвалі з ёю гандлёвыя зносіны—і Румынія пайшла на ўступкі. На месца Гогі назначаны прэм'ерам патрыярх Мірон Крысті, які аб'яднаў усе нацыянальныя партыі, апроч фашыстаў („Жалезнай Гвардыі“) і далей праводзіць у жыцьцё „румынізм“. Першым распараджэньнем новага прэм'ера было ўвядзеньне ваеннага палажэньня, ваенных судоў, разьвязаньне ўсіх партыяў і абвяшчэньне новай канстытуцыі. Новая канстытуцыя дае амаль неагранічаную ўладу каралю, астаўляючы парлямант толькі як дарадчы орган, без уставадаўчай ініцыятывы. Дня 24. II. адбыўся плебісцыт у справе новай канстытуцыі, за якую пададзена блізу 100 прац. галасоў! Каб зразумець гэтую колькасьць галасоў, трэба ўзяць пад увагу спосаб галасаваньня: яно было яўнае, а калі хто галасаваў проціў, мусіў падаць прычыны свайго супраціву, сваё прозьвішча і адрас! Палітыка патрыярха Мірона ёсьць падобнай да палітыкі Гогі, толькі вядзецца болей асьцярожна. Астаюцца ў сіле забароны гаварыць пажыдоўску і парасейску; выдаваць жыдоўскія, расейскія і нават часткова ўкраінскія газэты (там не прасьледуюцца толькі нямецкая і мадзярская меншасьці). Кажуць, што кароль Караль, спрытна манэўруючы, дайшоў да абсалютнай улады ў дзяржаве. Ня выключана магчымасьць новых неспадзевак у румынскай палітыцы. Ходзяць чуткі, што ў Румыніі насьпявае вялікая апазыцыя проціў цяперашняга караля, якая хоча пасадзіць на троне брата караля—Мікалая. Дык магчыма змаганьне і ўнутры самой дынастыі!

### На фронтах.

На гішпанскім фронце пасьля крывавых баёў паўстанцы адабралі Тэруэль. У Кітаі японцы стараюцца акружыць 200 тысячную кітайскую камуністычную армію, якая стаіць каля Жоўтай ракі. Бітва там цягнецца далей. Кітайскія аэрапляны зрабілі налёт на японскую выспу Фармозу і зрабілі там вялікія шкоды. За гэта японцы бамбардавалі ў апошнім тыдні бадай усе кітайскія большыя гарады.

### Саветы.

У Саветах палітыка ідзе ў двух кірунках: падгатоўка да вайны і чыстка „ворагаў народу“. У мэтах падгатоўкі да вайны праводзіцца новы, шырэйшы канал паміж фінскай затокай і Белым морам, з тым, каб у выпадку блёкады Балтыцкага мора караблі маглі выплыць на шырокі сьвет праз гэты канал і Белае мора. Разам з гэтым дасьледжваецца дарога ад Белага мора праз Ледавіты акіян на ўсход у кірунку Японіі. Палярныя экспэдыцыі Шмідта, Папаніна і іншых маюць болей стратэгічныя, чым навуковыя мэты. Саветы чуюць надыходзячую вайну і да яе гатовяцца. Сталін у пісьме да камсамольца Іванава, якое было апублікавана ў сав. прэсе, гразіць сусьветнай рэвалюцыяй...

Дня 2.III. пачаўся вялікі працэс над „права-трацкістоўскім блёкам“, да якога належалі б. камісары і выдатныя кам. дзеячы, як Бухарын, Рыкаў, Ягода, Крэстінскі, Ракоўскі, Шаранговіч, Чэрноў, Грынко, Бессонаў, Плятнёў і шмат іншых, усяго 21 чалавек! Усе яны займалі адказныя становішчы ў партыі, сав. урадзе і дыпляматыі. Вінавацяць іх у шпіёнстве, сабатажніцтве, дывэрсыі, шкодніцтве, тэроры, сувязі з разьведкамі чужых дзяржаў, імкненьне да падзелу Саветаў і адарваньня Украіны, Беларусі, Грузіі, Армэніі, Азэрбэйджану, сярэдня - азійскіх рэспублік і прыморскага краю (Уладывасток). Гэты „права-трацкістоўскі блёк“ злучаў у сабе трацкістаў, зіноўеўцаў, меншавікоў, эсэраў, нацыяналістаў розных сав. рэспублік. Меліся яны апанаваць Крэмль і забіць Сталіна. Апроч гэтага закідаецца некаторым з іх атручаньне Мэнжынскага, Куйбышэва і Горкага. Усе абвінавачаныя да закіданых праступкаў прызналіся; толькі Крэстінскі заявіў, што на ім прызнаньне вымусілі, але ўканцы і ён прызнаўся. Усім гразіць сьмерць. На суд дапушчаны прадстаўнікі прэсы і дыпляматычнага корпусу.

Мусіць баючыся працэсу і сьмерці, савецкі пол-прэд у Румыніі Бутэнко ўцёк аж у Рым пад апеку Італіі і там заявіў, што будзе працаваць дзеля стварэньня незалежнай Украіны. З гэтага відаць, што Муссоліні заінтарасаваны ў існаваньні незалежнай Украіны!

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га красавіка.*

Выдавец: В. Папуцэвіч. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.